У НУМАРЫ



# Ніва


БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 30 (804) ГОД XVI БЕЛАСТОК 25 ЛІПЕНЯ 1971 г. ЦАНА 60 гр.


*Канстанты Ільдэфонс-Галчынскі*

## ПЕСНЯ АБ АЙЧЫНЕ

Айчына мая, ты як промень
высокі,
Як шлях, што да сонца адчынен;
Ты шумнае мора, з гор стромкіх
патокі,
Ты дзень мой, ты неба, Айчына.

Ты подзвіг народа майго гераічны,
Работа і танец вясёлы,
І вёскі, што ззяюць агнём
электрычным,
І дзеці, што крочаць у школу.

З табою скарыцца любая дарога.
Твой голас нам шчасце
прарочыць, —
Бо ты — гэта сонца, бо ты —
перамога,
Ты — гэта жыццё наша, Польшча.

Ты — гэта масты прыгажуні
Варшавы,
Ты — свята і хлеб наш надзённы.
Айчына, цябе ў сваіх песнях
мы хвалім,
Ў змаганні і працы натхнёнай.

Ты — наша любоў, і надзея,
і вера.
Над Віслай, над Одрай сввяці нам,
Айчына Шапэна, Айчына
Вальтэра,
Народная наша Айчына.

*Пераклаў Іосіф Скурко*



*Новы Беласток. Фота Цаф — Сянько*

## ЛЮДЗІ І МАЛІНА

Вёска, як сад. Не відаць дамоў сярод зелені. Запах свежай прыроды.

Вёска — адна з актыўнейшых у Бельскім павеце. Шукаючы крыніц актыўнасці яе, трапляем на людзей.

Сельскагаспадарчы гурток у Паўлах існуе ад 1961 года. Але ад 1969 года яго старшынёй з'яўляецца Лявон Харытанюк — гаспадар сярэдняга пакалення. Узростам набліжаецца пад 40 год, сур'ёзны, скромны і поўны творчай працы.

Лявон Харытанюк — тып новага гаспадара. Ён метадычна і навукова ставіць свае крокі. У грамадскую працу ўвайшоў, прысвоіў яе як адзін з элементаў новага грамадска-гаспадарчага жыцця вёскі. Для пацвярджэння сказанага прывядзем толькі два прыклады грамадскіх чынаў у Паўлах.

Пабудавана раміза ў вёсцы выключна ўласнымі сіламі і сродкамі, «дзяржава не далажыла ані граша». Але словы гэтыя не гучаць як закід, а як гонар для ўласнай ініцыятывы і вытрымаласці.

У гэтым годзе паўлаўцы прывезлі з Беластока будынак і пабудавалі з яго сабе святліцу. Яна яшчэ не абсталявана і ў гэтым яны чакаюць дапамогі.

Кажуць у Паўлах: «Калі людзі бачаць, што нешта робіцца канкрэтна, то не адмовяцца ад ніякага чыну, дадуць і грошы, і свае сілы. Але вось была ў нас справа бруку. Сказалі нам, што зробяць брук, толькі каб мясцовыя людзі дапамаглі ў нефаховых работах. Людзі без ніякіх грошай сарвалі стары брук, а рабочыя прыехалі і п'яныя ляжалі, нічога не зрабілі». Такія з'явы нервуюць працавітых вясковых людзей. Ім шкада і часу, і грошай, якія марнуюцца.

У 20-асабовай партыйнай арганізацыі вёскі (Паўлы і Давідавічы) людзі не з прыпадку ці для славы. Гэта актыўныя і добрыя гаспадары. «Стараемся, — кажуць, — каб пры кожнай грамадскай працы не забракла членаў партыі. Аўтарытэт нашай арганізацыі ў асяроддзі някепскі, — скромна сцвярджае Лявон Харытанюк. Пытаю, што, мабыць, у іхняй партыйнай арганізацыі найлепшыя людзі вёскі.

«Не зусім так было раней. Але мы на апошнім сходзе прынялі пастанову скрэсліць двух, бо ў нішто не ангажаваліся».

Лявон Харытанюк у кар'еры грамадскага дзеяча дайшоў аж да члена Ваяводскага камітэта партыі. Ён старшыня сельскагаспадарчага гуртка, і людзі ад світання прыходзяць параіцца, вырашыць справу. І яшчэ адна функцыя Харытанюка. Ён член мастацкага гуртка ў вёсцы, менавіта слаўнага паўлаўскага драмгуртка, які працуе пад кіраўніцтвам тутэйшай настаўніцы Валі Амельянюк, родам з Дзянісак.

У п'есах, якія ставіць паўлаўскі драмгурток, Лёня Харытанюк заўсёды іграе ролі сур'ёзныя, найцяжэйшыя. Так ужо і пайшло яно, што ён бярэ нялёгкія ролі, дае сабе з імі рады. А сам ён на гэта кажа: «Я лепш адчуваю сябе, калі іграю добрую ролю».

У апошняй п'есе «Немцы» па Кручкоўскаму, якую адаптавала для сваёй сцэны Валя, Лёня Харытанюк іграў ролю нямецкага лекара, антыфашыста, які, рызыкуючы ўласным жыццём, ратуе малую дзяўчынку ад смерці. Расказвае ён сам, што роля гэта моцная і ён ёю сардэчна пераняўся. Калі давалі прэм'еру ў сваёй вёсцы, убачыў, што людзі там на лаўках на зале плачуць: старыя і маладыя, мужчыны. Драматычны гурток (для якога паўлаўскім сябрам раю выбраць назву) працуе нязменна і ўсё лепш. Не задавальняецца ён п'есамі для забавы, а смела бярэцца за вялікую літаратуру. «Заслуга тут перш за ўсё Валі», — такую апінію я пачула ў Паўлах. Але таксама заслуга і ўсіх — тых, хто прымае ўдзел, хто вучыць ролі, хто дыскутуе, як лепш зрабіць, заслуга вялікая школы. Кіраўнік ад самага пачатку з гуртком працуе. Валя Амельянюк праявіла асаблівыя здольнасці ў гэтай працы, але без усіх іншых — прыхільнікаў яе замыслаў і ініцыятывы, — Паўлы не былі б Паўламі, а, напрыклад, іншай вёскай, дзе людзі не ўмеюць або не хочуць выкарыстаць дрэмлючых у сабе сіл і здольнасці.

Як мы ўжо сказалі, вядучую ролю ў Паўлах адыгрывае пакаленне 30-годкаў.

Ад Лявона Харытанюка (бо летнім працавітым днём толькі шчаслівым прыпадкам застала я яго ў вёсцы) запісала прозвішчы людзей, праўда ўжо не бурлівай маладосці, а якраз сталых, найбольш пэўных, іменна 30-гадовых рэалістаў. Яны: Мікалай Нікіцюк, Маня Андрэюк, Анна Краснадэмбская, Васіль Галубоўскі — солтыс, Мікалай Садоўскі — усе з драмгуртка. Звязаліся з ім і не хочуць расставацца.

Мой субяседнік інфармуе: «Як толькі БГКТ пачало арганізаваць павятовыя агляды мастацкай самадзейнасці, то мы ніводнага не прапусцілі».

Новае цяперашняга часу заключаецца

Працяг на стар. 4

## СТВАРАЛЬНІКІ НОВАГА

Лягчэй гаварыць, што стварае культуру кампазітар, пісьменнік, кінарэжысёр, што вялікі ўплыў на культурнае жыццё маюць кіно, тэатры, дамы культуры. Але як гэта выглядае на вёсцы, дзе няма кампазітараў, тэатраў, пісьменнікаў? Гаворым пра культурнае жыццё вёскі па-рознаму, і што «забітая дошкамі», і што тут «толькі п'юць віно» і што «ніхто не прыязджае і таму няма культуры».

Гатовы я быў паверыць гэтым сцверджанням, але... Запланаваў перад гэтым паездку па Гайнаўшчыне. Хацеў яшчэ мацней пераканаць сябе ў тым, што сапраўды няма каму нашай вёскі «укультурняць». Паездка пераканала мяне, што разважаю я неразумна, і што наадварот — Гайнаўшчына багатая людзьмі ўпартымі, людзьмі, змяняючымі ўсімі даступнымі спосабамі аблічча нашай вёскі.

Вось што запісаў я ў блакноце.

Прыкладам адданасці справе пераўтварэння свайго асяроддзя можа быць праца Мікалая Бушко з Навасад. Бушко быў у радзе светліцовай, але адыйшоў. Адыйшоў таму, што яго месца павінны заняць іншыя. Але адыйшоў Бушко толькі з рады, аднак застаўся ў святліцы. Гэта ён найчасцей звяртае ўвагу на паводзіны наведвальнікаў, рэдагуе насценгазеты, у якіх адлюстроўваюцца навейшыя сусветныя здарэнні. Тое, што робіць М. Бушко, выклікае ў асяроддзі мешаныя пачуцці: адны вельмі «за», іншыя «супраць». І гэта вельмі добра, што ёсць хтосьці такі, хто ўзбуджае фермент, прымушаючы тым самым да публічнай дыскусіі над паступкамі ці паводзінамі, што ў выніку вядзе да змены асяроддзя.

Маленькая вёскаІсток мае клуб «Рух». На сцяне клуба вісіць насценгазета са здымкамі ўласнай мясцовасці. Калісьці гэтыя здымкі стануць дакументам мінулага, а зараз яны кажуць інакш глянуць на загоны, на якіх застаецца столькі людской працы. Фатаграфія можа стаць амаль жыццёвай неабходнасцю, як гэта ёсць у Мацея Дрвенгі з Арэшкава, які грамадска працуе з фатаграфічным гуртком у мясцовай святліцы.

Моладзь ахвотна працуе ў калектывах. Гэта праўда, што прыводзяць яе сюды розныя патрэбы. Але аб гэтым ведае дзеяч культуры. Ведае, што змест п'есы, песні ці верша павінен узбагачаць чалавека, які выконвае гэты змест, а таксама ўзбагачаць людскія пачуцці тых, хто будзе аглядаць мастакоў-аматараў. І калі драмкалектыў у Малых Тыневічах, які вядуць настаўніцы Лідзія Лесняк і Ірэна Васілюк, можа сказаць: мы ўздзейнічалі на саміх сябе і на нашых аглядальнікаў (г. зн. дасягнулі яны мэту) — стварылі ў душах гэтых людзей і сваёй нешта новае, больш вартаснае.

Мар'я Раманчук у клубе «Рух» у Кузаве аддае ўсё сэрца ў арганізацыю працы з дзецьмі. Гэтыя маленькія конкурсы і спаборніцтвы ці супольнае прачытанне дзіцячай кніжачкі, гэта ўклад у справу фарміравання новай паставы маладога чалавека.

Вялікую працу праводзяць ГОК у Белавежы і Кляшчэлях. Многае, што тут зроблена, залежала ад культурна-асветных працаўнікоў гэтых пляцовак. Анна Байко з Белавежы выпрацавала добрыя метады працы з жанчынамі. Ужо некалькі год вядуцца тут розныя курсы для жанчын, цыклы лекцый, школа здароўя. Яўгенія Такаюк з Кляшчэляў з'яўляецца каарды-

Працяг на стар. 4

 




*Адкрыў фэстын старшыня мясцовага гуртка БГКТ, сакратар ГРН у Семяноўцы Юрка Кіслы.*



*Пасля даклада выступілі школьныя калектывы мастацкай самадзейнасці з Кленік, Лукі (на здымку), Семяноўкі і Масева.*



*Не паспелі прагучэць песні, а ўжо на поле выйшлі спартсмены. 6 вясковых дружын ручнога мяча змагаліся на кубак павятовай рады ЛьЗС. Кубак здабылі эльзэтэсаўцы з Нарвы.*



*Нямала было эмоцый і ў спаборніцтвах пажарнікаў, прадрыхтаваных павятовай камэндай пажарнікаў і саюзам пажарнікаў у Гайнаўцы. Удзельнічала 6 дружын: Масева, Барысаўка, Альхоўка, Ляшукі, Лука і Семяноўка. Найлепшай аказалася дружына з Ляшукоў, на другое месца выйшлі пажарнікі з Лукі, а трэцяе занялі масеўцы.*

# ФЭСТЫН У СЕМЯНОЎЦЫ

**Як мы ўжо інфармавалі, 27 чэрвеня г. г. у Семяноўцы адбыўся фэстын гайнаўскага аддзела БГКТ, прысвечаны 15-годдзю нашага таварыства. Сёння змяшчаем фотарэпартаж з гэтага святкавання. Аўтар яго — Віктар Бура.**




*За школьнікамі выступілі дарослыя самадзейнікі з Семяноўкі і эстрадны калектыў гайнаўскага аддзела БГКТ. На здымку дуэт апошняга: Тамара Еўдасюк і Марыя Данілецкая співаюць беларускія частушкі.*



*У перапынках паміж выступленнямі паасобных калектываў цікава было паглядзець паказ моды, які арганізаваў ГС з Нараўкі. Паказ для старых і малых і кожнаму па густу.*



*Вера Фірсюк аб'яўляе наступны нумар праграмы.*



*ГС добра забяспечыў фэстын спажывецкімі і іншымі таварамі. Было 6 кіёскаў, у тым ліку 2 пункты продажу марожанага.*



*На фэстыне сабралася звыш 2 тысяч чалавек. Прысутнічалі таксама прадстаўнікі павятовых улад: старшыня ПРН у Гайнаўцы Мікалай Самоцік, старшыня павятовага камітэта Фронту адзінства народа, сакратар ПРН у Гайнаўцы Мікалай Грыгарук і кіраўнік цэнтра прапаганды ПК ПАРП Эдвард Лясота. Улады БГКТ прадстаўлялі сакратар ГП Янка Зенюк і старшыня гайнаўскага аддзела БГКТ Аляксандр Іванюк (ён і быў дакладчыкам). Усе ўдзельнікі фэстыну дасканала адчувалі сябе тут. Усе цікава правялі дзень, добра адпачылі і пагулялі (танцы працягваліся да поз няй ночы).*

 

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З ГРОДНА

# Дзякуй вам, Анна Сяргееўна

Калі б мне раней сказалі, калі б я магла прадбачыць, якой дарагой старонкай у маім жыцці застанецца школа! Вось праходзіш побач і так цягне зайсці ў свой клас, сесці за сваю лаўку, убачыць сваіх сяброў... Але няма зваротнай дарогі ў дзяцінства. Аднакласнікі расплыліся па ўсёй краіне, месца маё заняла іншая дзесяцікласніца... І толькі настаўнікі, усё тыя ж клапатлівыя, вечна чымсьці занятыя, прыходзяць цяпер да іншых дзяцей. Да будучых выпускнікоў...

Аднойчы асмелілася. Прыйшла на геаграфічны вечар. Ну і што ж, калі там не было нашых рабят! Затое вечар рыхтавала наша класная. Наша былая класная...

Зайшла і ледзь не пашкадавала аб гэтым. Было ўсё тое ж: прывычныя калідоры і класы, ветлівыя настаўнікі, знаёмы шум па паверхах. Але мяне тут жа нячутна абступілі іншыя асобы. І я зразумела, што школа для мяне, для ўсіх маіх аднакласнікаў — гэта не толькі вось гэтыя сцены, лесвіцы, кабінеты. Гэта і непаседлівая, крыху ўпартая Таня Капуста, і ўсхваляваная, з пастаяннай іскрынкай у вачах Таня Петухова, і ўпэўненая Галя Ламакава і парушальнік спакою Юра Мусіенка, і заўсёды арыгінальны Валера Сураеў, і гарэзлівы Саня Гардзейчык... І наша класная, наша дарагая Анна Сяргееўна Серада. Колькі дабра зрабіла яна для нас. І колькі прынеслі непрыемнасці мы ёй, самі гэтага не разумеючы.

*

...Помніцца, на вялікім перапынку ў клас уваходзіць Анна Сяргееўна. Не чакаючы, пакуль змоўкне шум галасоў, яна звяртаецца да нас:

Рабяты, сёння пасля заняткаў застаньцеся! Хутка наш тэматычны вечар, трэба рэпеціраваць.

І пасыпаліся з усіх бакоў пытанні, прапановы, сур'ёзныя і жартаўлівыя. Дзе толькі бралася ў Анны Сяргееўны цярпенне слухаць усе нашы недарэчнасці! У пяць гадзін збіраемся ў актавай зале.

Рэпеціравалі да позняга вечара. Памалу наш энтузіязм пагас, і пад канец рэпетыцыі з хору быў ясна і выразна чутны толькі прыемны голас Анны Сяргееўны.

Цяпер так прыкра ўспамінаць, што многія старанні класнай напалову разбіваліся аб нашае нежаданне, нават абыякавасць. Тады нам хацелася пайсці як найхутчэй дамоў. А яна? Чаму мы тады не думалі, што і ёй трэба дамоў, што змучылася за дзень? А дома, у колькі б яна не прыйшла, яе чакае праца гаспадыні.

*

Іншыя, не школьныя клопаты акружылі нас. Сур'ёзныя, цяжкія роздумы: куды падацца? Раптам памылішся ў выбары?

А жыццё настойліва і ўпарта распіхала нас па розных гарадах, інстытутах, заводах, установах. Нам жа, як ніколі раней, хацелася быць разам, і нейк само па сабе атрымлівалася, што мы знаходзілі адзін другога, збіраліся недзе ў парку, успаміналі, як амаль кожны год у летнія канікулы адпраўляліся ў незнаёмыя гарады, нязнаныя краі. Як, захапіўшыся турызмам, занялі першае месца ў вобласці. Як падарожнічалі па Прыбалтыцы і Украіне, пабывалі ў Таліне, Маскве, Рызе, Мінску, Кіеве... Як намучылася з намі ў паходах гэтых наша класная, наш галоўны турыст.

Нехта гаварыў, уздыхаючы:

— На наступны год у яе будзе пяты клас...

І нехта дадаваў зусім ужо па-дзіцячы:

— Вось бы зноў апынуцца ў пятым!

*

Дзівакі — мы падумалі, што Анна Сяргееўна назаўсёды развіталася з намі пасля выпускнога, што цяпер у яе іншыя клопаты, іншыя справы...

Кінула яна ўсе свае справы — і школьныя, і хатнія. Прыйшла ў інстытут, педагагічны, разам з нашымі бацькамі «хварэла» ў калідоры. Хвалявалася — не за аднаго Саню ці Алу — за ўсіх сваіх.

Таня Капуста, студэнтка педінстытута, успамінае, як яны паступалі:

— На кожны экзамен Анна Сяргееўна прыходзіла ў інстытут. Яна была нашым «бюром даведак». Падбягалі да яе нашы рабяты, падыходзілі незнаёмыя, задавалі пытанні і па рускай, і па фізіцы, і па хіміі... Анна Сяргееўна супакойвала пачырванеўшых, расхваляваных рабят.

— Ды не хвалюйся! Са страху забыла тое, што ведала. Давай разам прыпомнім.

І прыпаміналі. А галоўнае — ад яе слоў прыходзілі да сябе, больш упэўнена ішлі да цяжкіх інстытуцкіх дзвярэй.

— А потым Анна Сяргееўна бегла да нас, у медыцынскі, — кажа Саша Бондар. — І таксама перажывала, хвалявалася разам з намі.

Калі б магла, яна абавязкова паехала б і ў Мінск, і ў Ленінград, дзе паступалі яе выхаванцы.

*

Прыйшоў час ад'язджаць нашым рабятам у свае інстытуты. Мы з Аннай Сяргееўнай прыйшлі праводзіць іх. На вакзале мнагалюдна, шумліва. Вясёлыя, усхваляваныя юнакі і дзяўчыны, сумныя мамы, непрывычна маўклівыя таты. Студэнты ад'язджалі вучыцца. І раптам незнаёмы хлопец, высунуўшыся з акна вагона, аклікае нашу класную:

— Анна Сяргееўна! Добры дзень! Каго вы праважаеце?

— Сваіх дзяцей. Яны ж першакурснікі...

Гэта хлопец з папярэдніх выпускаў. Цяпер вучыцца ў Мінску.

— Анна Сяргееўна! Добры дзень...

Яшчэ адзін вучань. Пакуль дайшлі да свайго вагона, яе аклікнулі разоў сем.

— Усе вучні мае... — гаворыць яна.

Цягнік рушыў, і амаль з кожнага вагона нехта крычаў:

— Да пабачэння, Анна Сяргееўна...

А мне чулася:

— Дзякуй, Анна Сяргееўна!

— Дзякуй! Будзьце шчаслівы!

*Таццяна Лукашэнка,*
*г. Гродна, школа № 2*

## Наш Каляндар

## АНАТОЛЬ АСТРЭЙКА

24 ліпеня г. г. спаўняецца 60 год з дня нараджэння беларускага паэта Анатоля Астрэйкі. Паэт нарадзіўся ў вёсцы Пясочнае, Капыльскага раёна, Мінскай вобласці, у беднай сялянскай сям'і. Вучыўся на настаўніцкіх курсах і на літаратурным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута імя Горкага.

З першымі вершамі выступіў у друку ў 1928 г.

У 1930 г. А. Астрэйка пачаў працаваць у рэдакцыі акруговай газеты «Чырвоная Полаччына». З таго часу і да пачатку вайны супрацоўнічаў з рэспубліканскімі газетамі.

У час вайны А. Астрэйка працаваў адказным сакратаром сатырычнай газеты - плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну». Па заданню штаба партызанскага руху ён двойчы накіроўваўся ў варожы тыл. У 1943 г. у друкарні падпольнай газеты «Народны мсцівец» выйшаў зборнік вершаў паэта «Слуцкі пояс». Аднаіменны верш з гэтага зборніка і прапануем увазе нашых чытачоў.

## СЛУЦКІ ПОЯС

*Нада мною блакітны шацёр,*
*А навокал — лясы і лясы,*
*Мая Случчына з тысячы зор*
*Тчэ на восень свае паясы.*

*І калі ўсё збярэ ў палатно*
*І павесіць бяліць цераз край, —*
*Будзе цёмнаю ночкай відно,*
*Хоць іголкі на сцежцы збірай.*

*Млечным шляхам завецца здаўна*
*Гэты пояс, што лёг цераз бор,*
*Што саткала мая старана*
*З маладых і нягаснучых зор.*

*І ступаючы лёгка на мхі,*
*На палянкі някошаных траў,*
*Мы па зорцы шукаем шляхі*
*Да варожых часцей і застаў.*

*А калі мы вяртаемся ў бор,*
*На шляхах падарваўшы масты,*
*Ападаюць на сівы чабор*
*Зоры ціхім туманам густым.*

*Ахінаюць кілімам наш пуць*
*Да зямлянак праз шум баравы,*
*А над намі у вырай лятуць*
*Даўнім шляхам сваім жураўы.*

*Анатоль Астрэйка*



Адрэж па лініі, намечанай пунктырам, зрабі дзірку ў месцы, азначаным чорнай кропкай, і нанізвай старонкі на дроцік або шнурочак.

БІБЛІЯТЭЧКА «НІВЫ» • ВАСІЛЬ БЫКАЎ • ПРАКЛЯТАЯ ВЫШЫНЯ •



У ветраным небе густа плылі шызыя, набрынялыя сцюжай хмары, было золка, сцюдзёна, аднак снег болей не ішоў. Той, што застаўся з ночы, памалу таяў у траве. На дарозе, на схілах яго ўжо засталося няшмат, палаcа зямлі за рачулкай гразка чарнела раскіслым зляжалым ворывам. У некалькіх месцах на схіле відаць былі трупы забітых — шэрыя нерухомыя камякі шынялёў на стаптаным мокрым снезе.

— Дзе старшына? — ваўкавата запытаў Ананьеў.

— А там, за ўзгоркам, — падхапіўшы рэчмяшок, пасунуўся вышай Шапа. — Падвода зламалася. Вось тут перакусіць пакуль што.

Старшы лейтэнант скоса зірнуў на мокры рэчмяшок у яговых руках.

— Ён што — рэчмяшком думае роту накарміць?

— Ды гэта пакуль што. Для вас.

Баец таропка развязаў лямкі і дастаў некалькі сухароў, бляшанку кансерваў і белую алюмініевую пляшку. Ананьеў працягнуў руку і перш - наперш згроб ёю пляшку.

— Дай сухара...

Шапа ўслужліва выбраў яму найбольшы сухар. Старшы лейтэнант разламаў яго напалам. Аўтаматчык няўцямна зірнуў на камандзіра роты.

— Астатняе падзеліш на ўсіх. Паняў?

— Што дзяліць, таварыш старшы лейтэнант?

— Што ёсць.

Лежачы на баку і зусім безуважны да нас, Ананьеў адвінціў пляшку і, ускінуўшы яе, адпіў некалькі глыткоў. З выгляду ён памалу спакайнеў, грубаваты твар яго набываў звыклы выраз зласнаватай суровасці. Байцы на адхоне старанна акопваліся, кідаючы запытальныя позіркі на камандзіра роты, Шапу і мяне таксама, быццам я ведаў што-небудзь невядомае ім. Але пра тое, што здарылася ўранку, я ведаў меней за іх. Дагэтуль нельга было зразумець, як усё тое сталася, хто вінаваты і што роту чакала далей. Праўда, побач быў Ананьеў, толькі ён зацята маўчаў, і я не адважваўся загаварыць з ім.

Вядома, гэта была бяда, якая, зрэшты, здаралася не ўпершыню. Было нават і яшчэ горш. Але і цяпер нас стала дужа ўжо мала, узводныя ланцужкі здаваліся занадта кароценькія — дзесятка паўтара аўтаматчыкаў ляжала за хмызняком ды столькі за насыпам. Да таго ж, тут былі і параненыя, якіх неўзабаве трэба будзе адпраўляць з роты, — колькі ж тады нас застанецца? — думаў я.

Аб тым жа, мабыць, думаў і ротны, які, грызучы сухар, зморшчана азіраў свае баявыя парадкі.

— Ось табе і рота! — сказаў ён. — Дакамандаваліся, у тры госпада маць...

— А што — і Зайцава няма? — асцярожна запытаў я.

Ананьеў не адказаў і не зірнуў нават на мяне, ён зноў углядзеўся ў вышыню, нібы чакаў кагосьці адтуль.

Але чакаць было нельга — мёртвыя не вярталіся. Шкада было многіх небарак, асабліва малодшага лейтэнанта



— Гляньце!

Тое, што заўважыў аўтаматчык, здаецца, ужо было відно ўсім на адхоне. Байцы трывожліва замерлі ў сваіх акопчыках, ніхто не прамовіў ні слова. Ананьеў счакаў з недаверлівай прыкрасцю на твары, затым, нібы сцяміўшы нешта, у некалькі скачкоў адалеў насып. Я таксама хуценька ўзбег па адхоне і апусціўся на бок непадалёк ад ротнага.

Усіх над дарогай скавала недаўменне і цікаўнасць, з вышыні зноў данеслася далёкае, яўна не нашае: «Гэй-эй!», і на схіле ля верхняй мяжы ворыва мы ўбачылі двух. Яны нетаропка ішлі ўніз — другі амаль ушчыльную за першым. Задні пры тым шырока махаў рукамі, пэўна, падаваў знак, каб не стралялі.

— Гэ-эй! Ніхт шысен! Нікс стгаляй!

Вядома, гэта былі немцы, і мы ўсе змярцвелі ад напружанага, нямога здзіўлення, ледзьве верачы сваім вачам. Але тыя сапраўды ішлі да нас. Толькі нейкія трохі дзіўныя былі гэтыя немцы. Добра ўгледзеўшыся, я перш-наперш адзначыў, што апрануты яны неяк неаднолькава. Задняга нельга было разгледзець, а на пярэднім быў вельмі падобны на наш шэры караткаваты шынэлак без гузікаў і непадпяразаны. Ды і шапка на ім была наша — зімовая з растапыранымі ў бакі вушамі. І тут мяне раптам бы штосьці штурханула знутры — выразна і ўпэўнена, я зразумеў, што гэта...

— Чумак!?

Я і сам здзівіўся свайму адкрыццю і, мусіць, здзівіў камандзіра роты, які, аднак, паволі прыўзняўся і стаў на калені. Двое на схіле неяк засцярожліва сышлі ўздоўж ворыва ніжэй і спыніліся. І тады ўжо ўсёй роце стала беспамылкова відаць, што між падталых плям раскіслага снегу, уткнуўшы голаў і вінавата ссутуліўшыся ў сваім пакамячаным шынэльку, стаяў наш Чумак. За ім, акуратна за самай спіной, яўна хаваючыся, падаваў знакі немец з аўтаматам на грудзях, у касцы, з круглай праціўгазнай каробкай на баку.

Як толькі яны спыніліся, немец нешта пракрычаў цераз чумакова плячо, але мы не зразумелі ніводнага слова з гэтага яго крыку. Я няўцямна зірнуў на Ананьева, той, у напружанай позе прыўстаўшы на каленях, зноў зрабіўся счарнела-пагрозлівы і таксама, відаць, не мог сцяміць, што там адбываецца.

— Шнэйдар! — страпянуўся Ананьеў, калі немец крыкнуў яшчэ. — Дзе Шнэйдар? Шнэйдара сюды! А ну!

Гэта ўжо — да мяне. Я ўскочыў на адхоне, але ўспомніў, што Шнэйдар быў ва ўзводзе Піліпенкі, і цяпер мне дужа не хацелася бегчы туды. Аднак піліпенкаўцы, таксама ўжо ўбачылі гэтых двух на схіле, і, паўстаўшы ў сваіх акопчыках, пазіралі на вышыню.

— Шнэйдар! Шнэйдара сюды!

Там пачулі, нехта паўтарыў каманду, і я зноў, захоплены трывожнай цікаўнасцю, падаўся да камандзіра роты. Ананьеў, зусім забыўшыся на небяспеку, высунуўся з-за насыпу амаль да сярэдзіны і мацюкаўся.

